

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№117 (630) 18 чэрвеня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 617155 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.


## ФАКС

### Одной декларацией станет больше

**В штаб-квартире СНГ в Минске прошло заседание экспертов стран Содружества по окончательной доработке проекта декларации об основах экономического сотрудничества государств — участников СНГ.**

Проектом предусматривается неприменение экономических, политических и других мер принуждения одними странами СНГ по отношению к другим, уважение экономических и социальных прав человека. В то же время отсутствуют какие-либо санкции против нарушителей той или иной статьи декларации.

Проект предполагается вынести на рассмотрение глав государств СНГ на ближайшей встрече в Ереване.

**Виктор ДЯТЛИКОВИЧ.**

### Смотрите в оба! И лучше — на просвет

**Республику заполонили фальшивые пятитысячные купюры.**

Лишь за один день на этой неделе в ряде минских обменных пунктов и отделений Национального банка выловили восемь подделок.

На фальшивках отсутствуют водяные знаки, бумага не "хрустит" и зачастую номера купюр оканчиваются на "28" и "98".

Ведется следствие.

**Сергей РАЧИЛО.**

### Преступность безгранична

**Пожалуй, никогда еще Витебск не видел такого скопления милиции. Машины ГАИ на всех перекрестках, пешие патрули с собаками и без них...**

Таким "антуражем" была обставлена 16 июня встреча руководителей МВД Беларуси, Литвы, России и департамента полиции Латвии. Консультативное совещание по борьбе с провозом наркотиков, оружия и других запрещенных грузов проходило при закрытых дверях, но затем журналисты получили возможность взять интервью у главных участников встречи и узнать, в частности, что без договора о взаимопомощи правоохранительные органы государств-соседей не справятся с преступным транзитом на Запад через Беларусь.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

### ...За три дня до забастовки

**Администрация Минского завода автоматических линий подала в городской суд исковое заявление против Свободного профсоюза и стачкома МЗАЛа.**

В нем говорится, что объявленная на 24 июня забастовка незаконна. Слушание дела назначено на 21 июня.

**Ирина ЛЕВШИНА.**

### Вкратце

**Укрепить традиционные связи между Беларусью и Молдовой призвано соглашение о торгово-экономическом сотрудничестве.**

Этот документ от имени правительств двух стран подписали Временный поверенный в делах Молдовы в нашей республике Дмитрий Мунтяну и председатель Государственного комитета Беларуси по внешнеэкономическим связям Владимир Радкевич.

❑

**В правительственной резиденции "Заславль" состоялась встреча Председателя Совмина В.Ф.Кебича с представителями творческой интеллигенции республики.**

Обсуждались как творческие проблемы, так и вопросы материальной защищенности деятелей литературы и искусства в условиях кризиса.

❑

**Вчера в загородной резиденции президента России прошли переговоры между Борисом Ельциным и президентом Украины Леонидом Кравчуком.**

Обсуждался вопрос о Черноморском флоте.

❑

**Министр иностранных дел Российской Федерации Андрей Козырев возвратился вчера в Москву после завершения визита в Австрийскую Республику.**

В ходе визита он был принят президентом республики. Состоялась беседа с премьер-министром страны, прошли переговоры с австрийским коллегой.

❑

**Вчера на утреннем заседании Верховного Совета Украины принято постановление о проведении 26 сентября 1993 года всеукраинского референдума.**

На него будут вынесены вопросы о доверии президенту и Верховному Совету Украины.

❑

**Палата представителей Конгресса США одобрила законопроект об ассигнованиях на иностранную помощь в 1994 финансовом году в размере 9,3 млрд. долларов.**

Документ предусматривает выделение бывшим советским республикам 904 миллионов долларов. Из них на содействие российским реформам предназначается 704 миллиона.

❑

**Генеральный секретарь Организации Объединенных Наций Бутрос Гали прибыл вчера вечером с визитом на Украину.**

В программе его трехдневного визита — встречи с президентом Украины Леонидом Кравчуком, другими официальными лицами.

❑

**Президент России Борис Ельцин отправляется сегодня в рабочую поездку в Якутию.**

В ходе пребывания в этой республике он посетит ювелирный завод концерна "Золото Якутии", встретится с руководством республики.

❑

**На международном конгрессе в защиту книги в Москве было принято обращение к парламентам и правительствам стран СНГ, в котором изложены принципы защиты книги.**

Сущность их — в льготном налогообложении, снятии таможенных барьеров на пути поставок книг, бумаги, полиграфического оборудования.




Рисунок Олега ПОПОВА

### Штурмовики вновь поднялись в небо

**Вчера утром азербайджанская авиация подвергла массированной бомбардировке населенные пункты и позиции армии обороны Нагорного Карабаха.**

Имеются жертвы среди мирного населения. Этот налет стал первым после более чем двухмесячного перерыва в использовании азербайджанской стороной авиации.

Всю вчерашнюю ночь и утро продолжались кровопролитные бои в Мардакертском районе и на границе Аскеранского района Нагорного Карабаха. Обе стороны несут потери.

**Вадим БЫРКИН.**



**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Якім павінен быць дзяржаўны лад на Беларусі?

**Рыгор ЗНАТКЕВІЧ**

Магчыма, кагосьці гэтае пытанне і не цікавіць. Але, безумоўна, большасць насельніцтва Беларусі яно вельмі і вельмі хвалюе, бо ад таго, якой будзе наша рэспубліка, залежыць і жыццё кожнага яе жыхара.

На ўчарашнім пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь старшыня рабочай групы па распрацоўцы праекта Канстытуцыі Васіль Шаладонаў прапанаваў дэпутатам вызначыцца па трох прынцыповых блоках пытанняў аб дзяржаўным уладкаванні Беларусі. Першы — у Беларусі павінен быць моцны прэзідэнт, які будзе і кіраўніком дзяржавы, і кіраўніком выканаўчай улады. Другі — прэзідэнт з'яўляецца кіраўніком дзяржавы, але выканаўчая ўлада яму не падначалена. Трэці — Беларусь застаецца парламенцкай рэспублікай. Нам трэба знайсці грамадзянскую мужнасць сказаў Васіль Шаладонаў, і, у рэшце рэшт, вызначыцца, што ж мы збіраемся будаваць, над якім з трох прапаноўваемых варыянтаў працаваць рабочай групе.

Нагадаем, што парламент ужо абмяркоўваў праект Канстытуцыі, і тады ні адзін з прапаноўваемых варыянтаў не набраў неабходнай большасці галасоў. Так, за моцнага прэзідэнта выказаліся 147 дэпутатаў, за парламенцкую рэспубліку — 130 і 101 — за прэзідэнта, як кажуць, "слабага". Вячаслаў Кузняцоў, нагадваючы гэтыя лічбы, паведаміў, што аналіз пайменнага галасавання паказаў: нярэдка многія дэпутаты галасавалі за супрацьлеглыя прапановы.

Учарашнія выступленні дэпутатаў зноў паказалі, што агульнай думкі наконт будучага дзяржаўнага ладу на Беларусі ў парламента па-ранейшаму няма.

Для апазіцыі прынцыповым момантам (і яе лідэр Зянон Пазьняк неаднаразова гэта падкрэсліваў) з'яўляецца прыняцце парламентам закона аб тым, што артыкул аб прэзідэнцтве ўступае ў сілу толькі праз шэсць месяцаў пасля выбрання новага прафесійнага парламента. Чаму? Таму што, на думку апазіцыі, калі выбраць прэзідэнта зараз, то гэта парушыць існуючы ў Беларусі расклад палітычных сіл і прынясе народу толькі шкоду. Бо незалежна ад таго, каго выберуць, пачнецца барацьба паміж прэзідэнтам і парламентам, Саветамі розных узроўняў. Вопыт Расіі і Украіны якраз гэта і паказвае. А Уладзімір Заблоцкі, аргументуючы сваю пазіцыю, нават спаслаўся на Леніна, які гаварыў, што Саветы і падзел улады немагчымы!

Тым не менш пасля працяглых спрэчак тры блокі пытанняў выносяцца на галасаванне. У выніку за становішча, якое існуе зараз, калі па Канстытуцыі кіраўніком дзяржавы з'яўляецца Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, прагаласавалі 52 дэпутаты. За другі варыянт — кіраўніком дзяржавы з'яўляецца прэзідэнт, але яму не падначалена выканаўчая ўлада — толькі 36. Затое моцную прэзідэнцкую ўладу на Беларусі падтрымалі 213 народных дэпутатаў. Праўда, для канстытуцыйнай большасці гэтага недастаткова, але затое рабочая група атрымала нарэшце накірунак, у якім ёй трэба працаваць.

Такім чынам, на Беларусі хутчэй за ўсё будзе моцная прэзідэнцкая ўлада. Калі, канешне, дэпутаты не перадумаюць...

*Аб чым гаварылася на прэс-канферэнцыі?*

## "Грамада" зноў заклікае да аб'яднання

**Сяргей ПАЛЯШУК**

Дзе выйсце з крызіснага становішча, чаму Беларусь не павінна ўваходзіць у сістэму калектыўнай бяспекі? Такія асноўныя пытанні ўздымаліся на нядаўняй прэс-канферэнцыі парламенцкай фракцыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. У ёй прынялі ўдзел народныя дэпутаты Алег Трусаў, Леанід Дзейка, Віктар Какоўка і Віктар Аламліеў. Чаму менавіта ў гэты час спатрэбілася "Грамадзе" сустрэцца з журналістамі? Алег Трусаў растлумачыў гэта так:

— Наколькі нам стала вядома, частка народных дэпутатаў наогул не хоча разглядаць пытанне аб рэферэндуме наконт калектыўнай бяспекі. З чым гэта звязана? Справа ў тым, што, нягледзячы на заяву нашага прэм'ера, якую ён зрабіў 18 сакавіка, быццам пераважная большасць насельніцтва Беларусі падтрымлівае яго пазіцыю, сацыялагічныя апытанні і лісты чытачоў у рэдакцыі газет паказалі, што ўсё якраз наадварот. Таму мы лічым, што самае галоўнае пры абмеркаванні пытання аб рэферэндуме — не даць яго загаварыць. Лічым, што на рэферэндум павінна быць вынесена максімум два пытанні — аб уваходжанні Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі і аб датэрміновых выбарах Вярхоўнага Савета Беларусі.

**Віктар КАКОЎКА:**

— Я хацеў бы адзначыць эканамічны аспект гэтых ваенных пагадненняў. Справа ў тым, што ваенныя пагадненні планавалася стварыць на базе тых рэспублік, якія ўваходзілі раней у Савецкі Саюз. Я працаваў у Савеце рэспублік апошняга Вярхоўнага Савета СССР, і калі ўзнікла пытанне аб надзвычайным бюджэце на тры месяцы, то Міхаіл Гарбачоў быў вымушаны даць усе матэрыялы па бюджэту, у тым ліку і па ваеннаму. І мы ўпершыню ўбачылі, што ваенны бюджэт у нас складае 33 працэнты. Калі мы ўступім у сістэму калектыўнай бяспекі, то нам зноў прыйдзецца траціць такія ж сумы.

**Леанід ДЗЕЙКА:**

— Да гэтага часу Беларусь застаецца адной з самых мілітарызаваных краін у свеце. І што датычыць пытання аб калектыўнай бяспецы, то, на маю думку, гэта проста палітычная гульня. Ведаючы прынцыповую пазіцыю нашага Старшыні Вярхоўнага Савета, дэпутаты аб'яднання "Беларусь" якраз і хочуць, як кажуць, загнаць яго ў кут і нейкім чынам падвесці да пытання аб тым, што ён не выконвае рашэнні Вярхоўнага Савета.

**Віктар АЛАМПІЕЎ:**

— Я яшчэ раз хачу нагадаць склад удзельнікаў дагавора. Акрамя Расіі, ды і Расія ў нейкай ступені, усе дзяржавы маюць схільнасць да грамадзянскай вайны альбо вайны паміж сабой. Мы пачалі ўвязвацца ў дагавор, якому ўжо споўніўся амаль год. І дагэтуль Расія, як адзін з актыўных удзельнікаў гэтага дагавора, яго не ратыфікавала. І гэта вельмі зразумела, бо, падпісаўшы дагавор з Арменіяй і Азербайджанам, вельмі цяжка вызначыць, на чым баку выступаць у вайне. А можа, адну дывізію ў Арменію адправіць, другую — у Азербайджан, і няхай яны там змагаюцца?

Я лічу, што тэма аб уступленні Беларусі ў сістэму калектыўнай бяспекі надуманая, за ёй, акрамя палітыканства, нічога не стаіць. Ды і самі паглядзіце, што адбылося ў Маскве з кіраўніцтвам Аб'яднаных войскаў СНД. Яно фактычна знікла! Аб чым зараз можна гаварыць?

Але горш тое, што наш Вярхоўны Савет сваімі дзеяннямі ўжо прынёс шкоду рэспубліцы. Ну што гэта за вышэйшы дзяржаўны орган, у якога сем пятніц на тыдні? То ён ідзе да суверэнітэту, то раптам шчыльнымі радамі да дагавора аб калектыўнай бяспецы... І гэтая непаслядоўнасць толькі знішчае той невялікі аўтарытэт Беларусі на міжнароднай арэне, які мы мелі. І інвестары, якія маглі б да нас прыйсці, кажуць: ну, слухайце, вы спачатку вызначцеся, што вы ў сябе будуеце, чым будзеце займацца, а потым мы будзем з вамі супрацоўнічаць.

**Віктар КАКОЎКА:**

— Зараз правіць баль эканоміка, і калі наша вытворчасць у стане выпускаць канкурэнтаздольныя тавары, то мы іх прададзім. Калі наша прадукцыя будзе неканкурэнтаздольнай, то ніякія пагадненні нас не выратуюць! Бо ў Расіі няма грошай, каб задарма аддаваць сыравіну Беларусі. У Расіі марудна, але да рынку пайшлі. А мы стаім на месцы або ходзім па кругу!

— Якое выйсце бачыць "Грамада"?

**Алег ТРУСАЎ:**

— Патрэбна аб'яднанне ўсіх апазіцыйных сіл — і прамыслоўцаў, і бізнесменаў, і прафсаюзаў самых розных, і ўсіх дэмакратычных партый і рухаў. Мы бачым выйсце толькі ў стварэнні ўрада народнага даверу.

— А каго вы бачыце лідэрам дэмакратычных сіл?

**Алег ТРУСАЎ:**

— Я думаю, што лідэрам на пэўны момант можа стаць і Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, калі ён гэтага захоча. Таму што ўжо прыйшоў час яму вызначыцца. Вы ведаеце, што ў Расіі ўсе сілы мусілі аб'яднацца вакол Ельцына, хоць да Ельцына ў іх былі адносіны розныя. Тым не менш аб'яднанне ўсіх дэмакратычных сіл Расіі вакол Ельцына на рэферэндуме не дало магчымасці перамагчы чырвона-карычневым. Я думаю, калі Станіслаў Шушкевіч будзе настойліва праводзіць сваю пазіцыю аб рэферэндуме, то ў яго таксама ёсць шанц зрабіць тое ж, што зрабіў і Ельцын.

Ён павінен пайсці на такі крок!

*Да ўручэння вярыцельных грамат*



16 чэрвеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Куба ў Беларусі Ганна Марыя Равіра Інхідуа ўручыла вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу.

Ганна Марыя Равіра Інхідуа нарадзілася ў 1945 годзе. Закончыла філасофскі і філалагічны факультэты Гаванскага універсітэта.

З 1968 па 1970 год працавала супрацоўнікам Кубінскага інстытута дружбы народаў, а затым да 1974 года займалася даследчай работай у Інстытуце літаратуры і лінгвістыкі Акадэміі навук Кубы. З 1974 года пачалася яе дзейнасць на знешнепалітычнай ніве, аж да 1991 года яна працуе ў міністэрстве замежных спраў рэспублікі, дзе займае пасады спецыяліста па краінах, начальніка дэпартамента, намесніка дырэктара ўпраўлення Усходняй Еўропы. З сакавіка 1992 года назначана Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Куба ў Польшчы.

Ганна Марыя Равіра Інхідуа ўзнагароджана ордэнам Пашаны ў ступені Камендадора, Сярэбраным медалём Рэспублікі Польшча.

Валодае польскай, французскай і рускай мовамі.

Не замужам.

**Белінфарм.**

*Сустрэчы*

### Госці з цэнтра Конера

**18 чэрвеня Нацыянальны цэнтр стратэгічных даследаванняў сумесна з Цэнтрам Конера (ЗША) праводзяць семінар па праблемах ядзернай бяспекі. З-за акіяна ў Мінск прыехала дзесяць спецыялістаў названай установы.**

Перад імі выступяць з дакладамі старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Іван Смоляр, дырэктары праграм Нацыянальнага цэнтра член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Іван Нікітчанка, доктар фізіка-матэматычных навук Ігар Малевіч. Амерыканскія госці наведаюць установы, дзе лечацца чарнобыльцы, выкажуць свае меркаванні і практычныя парады па радыяцыйнай бяспецы.

**Пётр ВАЛКОВІЧ.**

*Отступать некуда?*

## Старший брат младшему: пора и честь знать

### Именно так можно расценить правительственную телеграмму, которая пришла на днях из Москвы в Национальный банк Беларуси

**Валерий КОРИБУТ**

Если гора не идет к Магомету, то Магомет посылает ей телеграмму с напоминанием о том, чем она является на самом деле.

Примерно так можно перефразировать известную арабскую пословицу, ознакомившись с содержанием телеграммы, адресованной руководству суверенной Республики Беларусь правительством не менее суверенной Российской Федерации. Речь в ней идет о российском рубле, который на сегодняшний день считается законным платежным средством на территории республики и который наше правительство предпочитало считать чем-то вроде коллективной денежной единицы, наследника союзного рубля.

Вероятно, российское правительство решило, что играть ему роль бескорыстного донора по отношению к бывшим "младшим братьям" не к лицу, особенно теперь, когда само стоит с протянутой на Запад рукою, и предложило: либо заключайте соответствующее соглашение с Россией о единой денежно-кредитной и финансовой политике на определенных условиях, либо покупайте наличные российские рубли в пределах сумм, имеющихся на корреспондентском счете в Банке России.

А дабы не было сомнений в серьезности намерений Москвы, подробно разъяснили свое понимание единой политики. Оно включает в себя: принятие (разумеется, нашим Верховным Советом) законодательного акта аб использовании в качестве единственного (без всякого там зверинца) законного платежного средства на территории государства валюты Российской Федерации и делегирование Банку России полномочий регулировать объемы кредитной эмиссии и осуществлять эмиссию денежной наличности; предоставление Банку России бухгалтерских балансов центральных (национальных) банков; внесение необходимых изменений в законы о банках и банковской деятельности, имея в виду приведение их в соответствие с положениями соответствующих законов Российской Федерации; применение установленных Банком России конкретных норм и нормативов, регулирующих деятельность коммерческих банков (нашему парламенту не надо будет голову ломать!); предоставление контрольным органам Российской Федерации права на осуществление контроля за соблюдением договоренностей в денежно-кредитной, финансовой и валютной политике и еще ряд положений в том же духе.

И в конце, как водится, кусочек пряника (или, по-восточному, халвы?) — в случае согласия до 1 октября живите спокойно, только не забудьте в июле предоставить бухгалтерский баланс Национального банка и согласовать в Банке России размеры кредитной и денежной эмиссии на III и IV кварталы 1993 года. В Москве ныне с этим строго, кампания по борьбе с инфляцией на подходе.

Строго говоря, осуждать Россию за подобный шаг нет оснований. Какое государство, претендующее на цивилизованность, может позволить бесконтрольное хождение своей валюты в других странах и еще официально предоставлять для этого наличные дензнаки? Не учитывать этого могли либо очень наивные, либо, напротив, в высшей степени дальновидные политики.

Фактически сегодня республика поставлена перед необходимостью принимать ответственнейшее решение в самые сжатые сроки и в самых неблагоприятных условиях. Причем еще до его принятия руководством республики припасен аргумент для оправдания возможного провала — дескать, были вынуждены под давлением России. Как это делается при каждом новом витке цен или при остановке очередного производства.

Выбор вариантов, действительно, не велик. Во-первых, можно принять российские условия и довольствоваться символическим суверенитетом. Еще пару месяцев назад, до референдума в России, когда шансы тамошних консерваторов котировались довольно высоко, такое решение было бы для нашего правительства и Верховного Совета самым желанным.

Коль лезем охотно в хомут коллективной безопасности, почему бы не отказаться от хлопот с национальными деньгами? Авось Россия оценит верность и поддержит десятком-другим миллионов тонн нефти, техническим кредитом подсобит, а мы им за их же счет продемонстрировали бы достоинства планово-командной экономики. В будущем из экономического союза мог бы и политический сколотиться. Там и долги списали бы.

Но итоги референдума в России многое изменили. Судя по всему, команда российских демократов будет проводить реформы еще решительнее, и здесь нашим консерваторам явно не светит. Пойти за Россией — страшно и неохота, оставаться на месте — у народа надолго терпения не хватит.

И в этой ситуации можно предположить, что наши нынешние власти решатся на введение национальной валюты. Особенно, если Россия откажется предоставить какие-либо льготы по ценам на базовое сырье и энергоносители для республики. Последнее же маловероятно, поскольку означает косвенную передачу другому государству триллионных дотаций, вкладываемых Россией в добывающие отрасли.

Готовиться к введению национальной валюты следовало начинать как минимум год-полтора назад. И в первую очередь сбалансировать доходы и расходы государственного бюджета внутри республики, а также попытаться уравновесить товарообмен с основными торговыми партнерами. Но этого сделано не было, и сегодня Беларусь находится, грубо говоря, в тройной инфляционной спирали.

Первая — это дефицит госбюджета, покрываемый по воле Верховного Совета кредитами Национального банка, когда каждое новое повышение минимальной зарплаты под давлением роста цен немедленно трансформируется в очередной ценовой скачок. Вторая — это зависимость от инфляции в России, передающейся через рост цен на базовое сырье и энергоносители. Третья — это отрицательное сальдо в торговле с Россией, когда нехватка российских рублей при высоком спросе на них обесценивает белорусский безналичный рубль.

Национальная денежная единица в таких условиях еще в момент своего появления на свет заразится вирусом инфляции и обрекается на долгую болезнь с возможностью летального исхода.

Остается последний вариант, который дает слабые шансы на пристойный выход из сложившегося тупика. Благодаря предусмотрительности Национального банка в республике создан некоторый запас расчетных билетов — "зайчиков", что даст возможность не торопиться с введением полноценной национальной валюты и попытаться осуществить предварительную стабилизацию экономики. Тем более что безналичный рубль уже давно оделся в национальный мундир.

Возможная глубина экономического спада в период стабилизации особой роли теперь не играет. Это понятие для нашей экономики вообще малоприменимо, поскольку мы производили слишком много бесполезной продукции, никак не влияющей на насыщенность потребительского рынка.

Но для того, чтобы стабилизировать экономику, и прежде всего финансово-кредитную систему, необходимо как минимум реорганизовать правительство. Нынешнему его составу это не по плечу, особенно в части экономических министерств. Нужны люди с принципиально иным макроэкономическим мышлением и не связанные прежними корпоративными (ведомственными, партийными) интересами и связями. Одновременно Верховный Совет должен разрешить Национальному банку проводить более жесткую денежно-кредитную политику и охлаждать популистские порывы правительства, противоречащие логике экономического развития.

*Выставки*

## Уезжаете в отпуск? Сначала посетите выставку...

Актуальнейшее время — пора летних отпусков, когда сограждане надолго оставляют без присмотра дома и квартиры, — избрано для проведения международной выставки-ярмарки "Безопасность-93". Она проходит в Минске в Выставочном центре Республики Беларусь (бывшая ВДНХ) по ул. Я.Купалы, 27.

Королевская кобра на заднем сиденье автомобиля и "дежурная" пантера за дверью особняка — это для нас еще слишком экзотично и накладно. Поэтому инициатор проведения выставки общественная ассоциация "Население за безопасность", которую возглавляет первый заместитель председателя Мингорисполкома В.Ермошин, нацеливает участников на демонстрацию сугубо практических средств личной защиты, а также жилых помещений, гаражей, автомашин и т.д. Четыре десятка фирм, в том числе 12 из дальнего зарубежья — США, Англии, Германии, Франции, Италии, Бельгии, Польши, показывают и продают массу средств технического "укрощения" преступников.

Проводятся семинары и конференции, в том числе с участием представителей американских правоохранительных органов по предложению уже имеющей свое отделение в Минске фирмы "ТТЕ". Оргкомитет выставки намерен максимально содействовать переговорам о создании совместных предприятий-производителей. Справки по телефону 57-78-50.

**Сергей ПОРОЗОВ.**

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

*Дзікунства!*

# ...І вада становіцца атрутай

Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ,
фота аўтара

**Мы даганялі браканьера. Ён веславаў што было моцы, мы стараліся адрэзаць яму выхад у асноўнае рэчышча Друці. Цямнела. Але было бачна, як чалавек выскачыў з лодкі і пачаў цягнуць яе па мелкаводдзі. Нам таксама давялося распранацца і лезці ў ваду, бо браканьер мог уцячы...**



А назаўтра па Друці дагары брухам паплыла рыба. Мноства рыбы. Учарашнія браканьеры каля вёскі Малая Арава на мяжы Талачынскага і Круглянскага раёнаў перагарадзілі сеткай раку і выбіралі, выбіралі гэту загубленую рыбу. Мы пад'ехалі, "рыбакі" хутка перабраліся на другі бераг, але ўжо не ўцякалі. Паляўніцтвазнаўца Андрэй Шымчук махнуў рукой:

— Лавіце, хлопцы, што зробіш...

А рыбакі з таго берага крычалі:

— Вы бачыце, што робіцца?! Вы нас штрафуеце за нейкую сетку, а тут тоны загубленай рыбы. Хто адкажа?

— Гэта ўжо другі выпадак, — расказваў нам праз хвіліну старшыня Круглянскага сельскага Савета Сяргей Кошкін. — І зноў у выхадныя дні. Першы раз загубленая рыба ў смярдзючай вадзе плыла дзевятага мая, тады ў Талачыне адкрылі ачышчальныя збудаванні...

— У мінулым годзе Талачынскі крухмальны завод ужо заплаціў семсот тысяч рублёў штрафу, але, відаць, гэта ягоных кіраўнікоў нічому не навучыла... — працягвае паляўніцтвазнаўца Васіль Вароніч. — Дзевятага мая мы таксама прыязджалі на іх ачышчальныя збудаванні — высветлілася, што вынята затычка з бервяна і атрута прэ проста ў раку. Ну, ці ж не абсурд гэта, калі лёс рыбы, чысціня цэлай ракі залежаць ад звычайнага кавалка бервяна?!

Мы едзем на ачышчальныя збудаванні Талачынскага крухмальнага завода. Дзяжурны слесар-сантэхнік Мікалай Данільчук сустракае нас насцярожана:

— А я тут прычым, я чалавек маленькі! Калі заступіў на дзяжурства, дык затычка была ўжо адкрыта...

Старшы інжынер ачышчальных збудаванняў Раіса Міхайлаўна Машковіч, у дом да якой мы наведаліся, сустрэла нас у штыкі:

— Чаго вы прыязджаеце ў выхадныя? Можа, гэта і не з-за нас!

— Дык рыба ж гіне! — спрабавалі растлумачыць ёй круглянскія паляўніцтвазнаўцы.

— Прыязджайце ў панядзелак, — стаяла на сваім Раіса Міхайлаўна...

— Вось так і працуем, — расказваў па дарозе назад Андрэй Шымчук. — Гойсаем за браканьерамі, здымаем сеткі, а потым у Талачыне як зробяць выкід атруты, як паплыве рыба дагары брухам, дык як з людзьмі, якіх учора штрафавалі, лічы, за дробязь, размаўляць? А як размаўляць з браканьерамі, можна сказаць, дзяржаўнага маштабу, якія не разумеюць, што вярхоўе ракі — гэта святая святых, што забруджваць ваду тут — гэта тое ж самае, што жылы чалавеку перарэзаць?! Упэўнены, што пакуль парушальнікі не будуць несці асабістую матэрыяльную і крымінальную адказнасць, не зменіцца нічога. У мінулым годзе крухмальны завод заплаціў 700 тысяч штрафу. Ну і што? Змянілася што-небудзь? А калі б з асабістай кішэні заплаціў дырэктар ці адсядзеў месяцаў пяць у турме, дык, думаю, ніколі больш такога не дапусціў бы.

— І з тымі ж звычайнымі браканьерамі таксама праблема, — працягваў і Васіль Вароніч. — Людзі ва ўсе вякі лавілі сеткамі рыбу. І зараз ловяць. І ніякія тут забароны не спрацуюць. Дык чаму гэта нельга ўзаконіць? Мы б выдавалі ліцэнзіі рыбакам, як і паляўнічым, яны б атрымалі магчымасць злоўленую рыбу законна прадаваць, а мы кантралявалі б іх дзейнасць. Чаму нельга пайсці на такі крок? Зрабіў парушэнне — ліцэнзія анулюецца, а папаўся без яе — вялізны штраф атрымлівай. Сёння ж мы можам браканьера аштрафаваць толькі на дзвесце пяцьдзесят рублёў. Колькі там у вас у Мінску каштуе кілаграмовы лінь?.. Як бачыце, зноў абсурд!

... Мы ехалі ўздоўж Друці. Рыба павольна плыла ўніз...

❑ *Рака Друць — брацкія могілкі?*

## *Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 384*

### Аб ільготах для навучэнскай моладзі на праезд міжгароднім і прыгарадным аўтамабільным транспартам

У адпаведнасці з генеральным пагадненнем паміж Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і аб'яднаннямі наймальнікаў на 1993 год Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць для студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў ільготныя тарыфы ў памеры 50 працэнтаў кошту білета на праезд міжгароднім і прыгарадным аўтамабільным транспартам з 1 кастрычніка па 15 мая ў суботнія, нядзельныя і святочныя дні, а таксама з 1 студзеня па 29 лютага (у час зімовых канікулаў) — ва ўсе дні тыдня.

2. Лічыць страціўшай сілу пастанову Савета Міністраў БССР ад 29 мая 1969 г. N 191 "Аб тарыфах на праезд у аўтобусах міжгародніх зносін для студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў і школьнікаў у перыяд зімовых канікулаў" (ЗЗ БССР, 1969 г., N 18, арт. 290), захаваўшы яе дзеянне ў частцы льготнага тарыфу для школьнікаў.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

11 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.

*З першых вуснаў*

## ...А 200 тысяч не знаходзіцца

**"Мы не збіраемся кагосьці прыцягваць да адказнасці. Гэта справа праваахоўных органаў", — растлумачыў карэспандэнту Белінфарма Аляксандр Лукашэнка, старшыня створанай нядаўна Вярхоўным Саветам Часовай камісіі для вывучэння дзейнасці камерцыйных структур, якія дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання.**

Цікавіць камісію перыяд дзейнасці камерцыйных структур пры органах улады, які ахоплівае трохгадовы тэрмін работы парламента. Адной з задач, пастаўленых перад камісіяй, падкрэсліў яе старшыня, з'яўляецца і падрыхтоўка даклада Вярхоўнаму Савету аб дзейнасці праваахоўных органаў і Кантрольнай палаты.

Аляксандр Лукашэнка выказаў здзіўленне наконт пазіцыі Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб фінансаванні дзейнасці камісіі. "Для аплаты работы створанай камісіі я прасіў усяго 200 тысяч рублёў, але іх не знайшлося. У той жа час праблем з выдзяленнем валюты для замежных паездак дэпутатаў у Прэзідыуме не ўзнікае".

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА.**

## *Рэпарцёр даведаўся*

### Другое нараджэнне вакзала

**Паколькі падрадчыка для рэканструкцыі Брэсцкага вакзала дома знайсці не ўдалося, за гэту няпростую і клапотную справу ўзялася польская фірма, якая займаецца аднаўленнем архітэктурных помнікаў мінулага.**

Дарэчы, будынак чыгуначнага вакзала ў пагранічным горадзе — таксама помнік культуры, архітэктуры і гісторыі. Комплексная рэканструкцыя яго будзе каштаваць 1 мільён 66 тысяч долараў і 32 мільёны рублёў. Яе плануецца завяршыць да лета наступнага года.

### Эксперты розныя патрэбны...

**Алкагольныя атручэнні замежнымі сурагатнымі напіткамі, якія на Гомельшчыне набываюць усё больш масавы характар, вымусілі кіраўніцтва Мазырскага гараддзела ўнутраных спраў уключыць у штат эксперта па вызначэнню прыгоднасці да ўжывання хмельнага зелля.**

Цяпер кожны жадаючы можа зайсці ў міліцыю і з дапамогай кампетэнтнага спецыяліста пераканацца ў якасці набытага напітку.

### Калі даходы перавышаюць расходы

**Гродзенскія статысты сцвярджаюць, што насельніцтва вобласці траціць менш, чым зарабляе. Перавышэнне даходаў над расходамі склала ў мінулым годзе 1758 мільёнаў рублёў, або 3,8 працэнта (у 1991 годзе гэты паказчык складаў толькі 1,9 працэнта).**

Нягледзячы на тое, што сярэднямесячная зарплата рабочых, служачых і калгаснікаў за гэты перыяд павялічылася ў 9,2 раза, тэмпы росту яе і даходаў у цэлым усё ж адставалі ад тэмпаў росту рознічных цэн на тавары і паслугі.

### Аднаўленне палепшыць дабрабыт

**Энергетычную падпітку ў два з палавінай мільёны кілават прадпрыемствы і гаспадаркі Расонскага раёна атрымаюць ужо ў наступным годзе.**

Адбудзецца гэта пасля аднаўлення гідраэлектрастанцыі на рацэ Ніша. Клясціцкі гідравузел спыніў сваю работу ў пачатку васьмідзесятых гадоў, калі быццам бы не было неабходнасці ў малых электрастанцыях. Пасля яго другога нараджэння Віцебшчына зэканоміць больш тысячы тон паліва.

### Перспектывы пакуль што сумныя

**Паводле даных упраўлення адукацыі Брэсцкага аблвыканкама, у мінулым годзе больш як 27 тысяч выпускнікоў вобласці так і не змаглі знайсці сабе пастаянную работу.**

Адна з галоўных прычын у тым, што прадпрыемствы проста ігнаруюць свае абавязацельствы па браніраванню рабочых месц для тых, хто ўступае ў самастойнае жыццё. Перспектыва на бягучы год — яшчэ больш сумная, паколькі ў прамысловасці вобласці паўсюдна ідзе скарачэнне колькасці работнікаў.

**Белінфарм.**

## *Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні Садоўскага Р.С. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За шматгадовую плённую работу ўзнагародзіць начальніка фінансавага ўпраўлення выканкама Брэсцкага абласнога Савета народных дэпутатаў САДОЎСКАГА Рамуальда Станіслававіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

14 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2389-XII

## *Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб прысваенні Скакуну А.С. ганаровага звання "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь"

За вялікі асабісты ўклад у развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці і актыўную грамадскую дзейнасць прысвоіць старшыні савета сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства "Астрамечава" Брэсцкага раёна СКАКУНУ Аляксею Сцяпанавічу ганаровае званне "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

14 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск.
№ 2388-XII

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб ратыфікацыі Канвенцыі аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, падпісанай 22 студзеня 1993 года ў горадзе Мінску

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Ратыфікаваць Канвенцыю аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах, падпісаную 22 студзеня 1993 года ў горадзе Мінску.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

10 чэрвеня 1993 г.
г.Мінск. № 2354-XII

## *Почем валюта?*

### С 17 июня Национальным банком установлены курсы иностранных валют

| | Единый курс | Курс инвест. | К долл. США |
|---|---|---|---|
| 1 австрал. доллар | 1,206.90 | 337.50 | 1.4815 |
| 1 австр. шиллинг | 156.39 | 43.73 | 11.4330 |
| 1 фунт стерлинг. | 2,738.68 | 765.85 | 0.6529 |
| 10 бельг. франков | 535.17 | 149.66 | 33.4099 |
| 1 немец. марка | 1,100.24 | 307.67 | 1.6251 |
| 1 голлан. гульден | 981.01 | 274.33 | 1.8226 |
| 1 датская крона | 288.07 | 80.56 | 6.2068 |
| 100 итал. лир | 121.23 | 33.90 | 1,474.8825 |
| 1 канад. доллар | 1,395.57 | 390.26 | 1.2812 |
| 1 норвеж. крона | 260.21 | 72.77 | 6.8714 |
| 1 доллар США | 1,788.00 | 500.00 | 1.0000 |
| 1 фин. марка | 328.84 | 91.96 | 5.4373 |
| 1 франц. франк | 327.21 | 91.50 | 5.4644 |
| 1 шведск. крона | 247.36 | 69.17 | 7.2283 |
| 1 швейцар. франк | 1,233.78 | 345.02 | 1.4492 |
| 10 японск. иен | 170.16 | 47.58 | 105.0776 |
| 1 ЭКЮ | 2,150.07 | 601.25 | 0.8316 |
| 10 испанск. песет | 143.66 | 40.17 | 124.4605 |
| 10 греч. драхм | 80.56 | 22.53 | 221.9464 |
| 1 ирландск. фунт | 2,602.18 | 750.05 | 0.6666 |
| 1 исландск. крона | 28.13 | 7.87 | 63.5620 |
| 1 кувейт. динар | 5,960.59 | 1,666.83 | 0.3000 |
| 10 ливанск. фунтов | 10.32 | 2.89 | 1,732.5581 |
| 10 португ. эскудо | 115.85 | 32.40 | 154.3375 |
| 1 сингап. доллар | 1,111.94 | 310.95 | 1.6080 |
| 10 турецк. лир | 1.73 | 0.48 | 10,335.2601 |
| 1 эстонск. крона | 137.53 | 38.46 | 13.0008 |
| 1 СДР | 2,545.75 | 711.90 | 0.7023 |
| 1 российский рубль | 1.80 | | |
| 1 укр. карбованец | 0.74 | | |
| 1 литовский талон | 3.67 | | |
| 1 латвийский рублис | 13.86 | | |

**Курс клиринговых валют**

1 доллар США по расчетам с Кубой 500.00
1 доллар США по расчетам с ЧСФР 500.00

## *Колонка Павла Якубовича*

# Наш человек в Европе и дома

Еще совсем недавно мы прилюдно и с энтузиазмом ругали Запад за его потребительские пороки, млея при этом не только перед совершенством утюга "Филипс", но и перед любым юношей, прибывшим обучаться в минское ГПТУ с Берега Слоновой Кости. Эта особенность души была в одинаковой степени присуща начинающему бизнесмену из интуристовской гостиницы и московскому министру, готовому за пустячный презент подписать потрясающе убыточный для страны контракт. Об этом, о нашем "славном" прошлом я говорю с единственной целью — все это было и, очень хочется надеяться, безвозвратно прошло. Сегодня мы европейцы! В марионеточном прошлом мы оставили и высокомерную спесь, и отвратительное низкопоклонство. Мы поняли (и никого не собираемся убеждать в обратном!), что наша лесисто-болотистая равнина отнюдь не центр цивилизации. Но мы совсем не сирые и убогие, шапку ломать ни перед кем не собираемся — живем скромно, по средствам, уважаем соседей и не кладем ноги на стол.

Однако наблюдая жизнь в ее разных проявлениях, приходится думать о том, что вышеупомянутые простые и понятные мысли еще не овладели массами и отдельно взятыми согражданами. И похоже, что еще долго предстоит нам выводить родимые пятна, а значит, сталкиваться с недоумением, а то и настороженностью со стороны соседей. Вполне возможно, что в Европе еще долго будут глядеть на нас не как на граждан уважаемой страны Беларусь, а как на пассажиров туристских поездов, прибывающих из СНГовской глубинки в Рим, Вену и Прагу для яростной торговли и беготни по магазинам. Или — как на гастарбайтеров из стран третьего мира, не гнушающихся выпрашивать милостыню у снисходительных бюргеров.

Передо мной статья из газеты, которая издается в земле Рейнланд-Пфальц. Статья озаглавлена броско: "Гуманитарная акция или помощь для детей бонз". Публикация пересказывает выступление А.Рухли, вице-президента благотворительного фонда "Жизнь после Чернобыля", на симпозиуме в городе Шпейере. Вообще-то прекрасно! Наш человек принят в высшем экологическом свете — это ли не уважение республики? Но что же поведал немецкому общественному мнению господин А.Рухля? Характеризуя деятельность известного на Беларуси фонда "Дети Чернобыля", А.Рухля, цитирую газету, "...назвал партнеров федерального правительства "ортодоксальными старыми коммунистами", которые в свое время были высокопоставленными функционерами советской системы".

Сильно сказано! Но переведем дыхание и попытаемся разобраться, что к чему. Во-первых, А.Рухля не только общественник, он начальник отдела Министерства иностранных дел Беларуси. Следует ли его разоблачительную речь считать выполнением неких директив МИДа? Нет, конечно! К данной активной дипломатической акции МИД, разумеется, никакого отношения не имеет, никто А.Рухлю на это дело, как говорится, не уполномачивал. Все проще — благотворительный фонд, в котором наш дипломат состоит вице-премьером, соперничает с фондом "Дети Чернобыля". Дело, в общем-то, понятное. Но зачем же переносить домашнюю свару в Германию, разве нельзя выяснить отношения в Минске? Нет, в Германии все-таки лучше. Бомба, начиненная политическим динамитом, наделала много шума и едва не привела к разрыву всех и всяческих отношений администрации земли Рейнланд-Пфальц с фондом "Дети Чернобыля". Удар был нанесен расчетливо и метко. Самое серьезное обвинение в политической беспринципности — обвинение в сотрудничестве с "ортодоксальными старыми коммунистами". Это обвинение может сокрушить в сегодняшней Германии фигуру гораздо более значительного калибра, нежели земельный президент. Так и случилось. "Разоблачение" А.Рухли вызвало политический шквал.

Слово "разоблачение" я взял в кавычки не случайно. По всякому обзывали руководителя фонда "Дети Чернобыля" народного депутата Г.Грушевого. Но даже самые последовательные зоилы не доходили до столь фантастических утверждений о "высокопоставленном коммунистическом прошлом" человека, известного как раз последовательной борьбой с партноменклатурой. Знает об этом, конечно, и Рухля. Но — дипломатия в сторону!—речь идет о поездках, распределении гумпомощи и прочем приятном. Какие уж тут церемонии? Тут очень кстати советский опыт, связанный со своевременным "озвучиванием" припасенного компромата.

А вот вам другая сторона медали. Кстати, тоже косвенно связанная с неизбывной нашей бедой, с Чернобылем.

Сегодня в Беларусь приезжает немало людей, искренне озабоченных тем, чтобы помочь. Но не надо думать, что среди них сплошные филантропы и ученики матери Терезы. Встречаются, увы, и респектабельные прощелыги, делающие на Чернобыле имя, беззастенчиво пользующиеся кропотливо собранной научной и медицинской информацией. Удивительного здесь нет. Се ля ви. Но всякий раз становится не по себе, когда видишь раболепие, когда любому визитеру заглядывают в рот, носятся, как с писаной торбой, разве что чемоданы в гостиницу не таскают. "Своих" при этом можно по инерции унижать и даже топтать.

В Беларусь частенько наведывается профессор Мюнхенского университета Эдмунд Ленгфельдер. Герр Ленгфельдер сделал немало. В том числе и в плане материальном, оказал содействие общественным и государственным организациям Германии в поставках ими на Гомельщину медикаментов и медоборудования. Все прекрасно. Но надо ли развращать скромного профессора, демонстрировать изнанку нашей широкой души? Передо мной копия документа, подписанного одним из заместителей Председателя Совета Министров: "Настоящим подтверждается, что г-р Эдмунд Ленгфельдер... является постоянным консультантом и советником белорусского правительства по вопросам радиометрических, медицинских и гуманитарных мер, направленных на преодоление последствий чернобыльской катастрофы. Этот документ предназначен для предъявления учреждениям и службам как внутри страны, так и за рубежом".

Каков мандат?

Да никаков!

Нет у нас в государстве такой должности и потому является "мандат" самой обыкновенной липой. Но зачем ее было создавать, зачем подсовывать на подпись заместителю премьера, зачем выдумывать несуществующие посты? Да скорее всего потому, что ни у кого из причастных к истории создания документа не шевельнулась мысль о том, как отнесется сам Ленгфельдер к тому, что перед ним унижаются высокопоставленные государственные мужи, как это угодничество соотносится с таким понятием, как престиж Беларуси в тех странах, где герр Ленгфельдер будет "предъявлять" грозный документ? Не могу представить, чтобы вице-президент США взял бы да и подмахнул бумагу о назначении, хоть и симпатичного, но все же гостя, пребывающего в загранкомандировке, преподавателя Муховичского зооветтехникума "постоянным советником" своего правительства. А у нас — пожалуйста. Да что мы, прости Господи, неразумные папуасы или, черт побери, граждане солидного, хоть и молодого государства? Кто же нас будет после этого уважать?

Немцы, как известно, народ серьезный. Получив на руки убийственной силы аусвайс, Ленгфельдер нашел возможность использовать его на полную мощь. Высокое звание "консультант правительства" произвело такое неизгладимое впечатление на нарсуд Центрального района Гомеля, что он вынес обвинительный вердикт по адресу народного депутата Беларуси И.Дробышевской. Заезжего "советника" оскорбила статья главного онколога Гомельской области, в которой она охарактеризовала роль господина Ленгфельдера в деле ликвидации последствий аварии на ЧАЭС как весьма скромную. Вообще-то главному онкологу из Гомеля виднее, что делается в Брагине, но вооруженный мощной справкой Ленгфельдер смело бросился в бой. И победил. И хотя, судя по аргументации своего решения, суд в газетной статье ничего особо "клеветнического" не обнаружил, народный депутат пока оказалась проигравшей. "Согласно законам гостеприимства", — помнится, говаривал в таких случаях персонаж романа Ильфа и Петрова.

*Случай с горьким привкусом*

# Девочка в лесу,

## или "Маугли" из Подберезья

Сергей БУТКЕВИЧ

Невероятно! Двое суток блуждала в лесу девочка двух лет и 10 месяцев от роду. И выжила. И нашлась...

Сотни людей искали маленькую Оксану. Местные жители — в сараях, хлевах, за околицей деревни. Подростки из летнего лагеря "Дружные ребята" прочесывали лесные заросли. Водолазы шарили по речному дну.

Всю эту работу организовала милиция, и тут в самый раз сказать о ее усердии доброе слово. Витебский райотдел бросил на чрезвычайную операцию 15 офицеров во главе с Николаем Крыловым, в спасательных действиях принимала участие целая бригада из УВД области.

Трудились на совесть. Вот только, если честно говорить, не верили, что найдут малютку живой. Соседские дети вроде бы видели, как она падала в выгребную яму. Этих ям, силосных, отстойных, ничем не огражденных, на главной усадьбе учхоза "Подберезье" столько, что утопить в них можно всю деревню. Рядом с ними и развлекается ребятня, рискуя угодить в любой из множества зловонных провалов.

Не понаслышке зная о насильниках, садистах и прочих выродках, милиционеры почти не сомневались, что ищут труп. В глубь леса смотрели тоже без особой надежды. Там звери, и ночи в нынешнем июне на редкость холодные: плюс восемь, а может, и меньше. Еще и этот дождь — с вечера до утра. Взрослому впору заболеть. А тут кроха такая!

Кроха тем временем жила. Именно в лесу. Она шла куда глаза глядят, тоненько плакала от страха, боли бессчетных комариных укусов, от голода и жажды. Забывалась коротким сном на мокрой, колкой от иглицы земле, пробуждалась в жутком, непонятном одиночестве. Вставала на отекшие ножки и вновь брела, все больше отдаляясь от своего Подберезья.

Еще несколько часов, и девочка бы погибла. Ей повезло с "календарем". Силы покинули ее в субботу, когда витебский люд дружно покидает асфальт.

...12 июня 1993 года, недалеко от деревни Бибиревка, Оксану случайно нашел в лесной глуши горожанин Виктор Овчинников. Гуляя с 8-летним сыном, услышал издалека слабый писк. Дом, где жила девочка, был от этого места в двух километрах...

Она уже не могла плакать, ничего не понимала, почти не видела: глаза на распухшем лице превратились в щелочки. Из одежды на ней — какая-то кофточка да маечка. Ни трусиков, ни обуви.

...Врачи областной детской клиники, куда срочно привезли Оксану — всю в струпьях, изъеденную комарами до синевы, — поразились ее жизнестойкости. Уже очень скоро она попросила есть. Но лишь спустя сутки ее осторожно начали поить сладким чаем. А вот за лечение принялись сразу: нужно было уберечь больную от начинавшейся пневмонии. Реаниматоры во главе с Александром Мисникевичем сделали все, что от них зависело. "Путешественница" уже улыбается, вот только разговорить ее не удается. Все понимает, а сказать не может...

Она забрела в лес после того, как осталась без присмотра. Около шести вечера мать дала ей краюху хлеба, а сама легла спать. Больше никому до ребенка дела не было. Как, впрочем, и до остальной "поросли" этого семейства, где появляющиеся один за другим малыши бегают босиком от последних "белых мух" до первых, питаются, как попало...

Это правда, что сейчас с кучей ребятишек стало прожить труднее, чем раньше. И супругам Рожковым, родителям Оксаны, есть на что жаловаться: цены растут быстрее детей, учхоз с апреля задерживает пособие, с продуктами туго.

Но почему же, горюя о пропавшей девочке, односельчане поругивали ее мать и отца? Да потому, что все многодетные семьи бедны, но не в каждой такая грязь, как в совхозной квартире Рожковых, и далеко не у всех родителей, даже при огороде и коровах, так неухожены и беспризорны "цветы" их брачной жизни.

Бедность — не порок. Но зачем в один из дней, когда шли поиски Оксаны, ее мама купила две бутылки "Зверобоя"? С горя или на помин души?

Знаменитая сказка Киплинга про мальчика-волка Маугли не вполне выдумана. Был, говорят, такой случай. Только людям, нашедшим в джунглях рычащего и скалящего зубы "гуманоида", не удалось вернуть его к человеческой жизни. Он остался животным, потому что попал в лес бессознательным младенцем.

Это печально, но рядом с нами, при живых родителях, существуют дети, похожие на зверенышей, если даже смышленые, то почти бессловесные. Бродят, "пасутся" сами по себе, познают мир чуть ли не инстинктами. И так до тех пор, пока садик или школа не начнут развивать их разум и речь. Потом они женятся и рожают...

Вот одна витебская мамаша бросила дитя на попечение тетки, а та загуляла где-то на три дня, оставив ребенка в запертой квартире.

Вот десятилетняя девочка из огромной деревенской семьи, отправленная вечно хмельными родителями в больницу ухаживать за младшей сестричкой, не хочет возвращаться домой, потому что там есть нечего, а в больнице кормят.

Вот и Оксана... Родители, наверное, по-своему любят ее, пропойцами их не назовешь. Но девочка не может выдавить из себя ни слова. Испуг не проходит? Да нет, просто с ней дома мало разговаривали. Вот и не научилась пока.

Кощунственно прозвучит, но суровое детство сослужило малышке верную службу в ее страшных лесных приключениях. "Благополучное" дитя не справилось бы с таким испытанием здоровья и упорства. Но кто скажет, что Оксана будет надежнее других подготовлена к жизни?

У матери счастливо найденной девочки восемь детей. Двое — от первого брака, остальные — от нынешнего. Старшие живут с бабушкой, шестерых супруги держат пока при себе. Пока, потому что происшествие с Оксаной, едва ее не погубившее, стоившее нервов множеству людей и немалых расходов казне, может стать каплей, которая переполнит чашу терпения милиции и местного Совета, заставит их возбудить дело о лишении Рожковых родительских прав.

Это — крайность. Надо верить, что и "главу" семьи, и жену его пережитое все-таки "проняло"...

Дай Бог вам всем заботы и доброты, детеныши человеческие! Мы все виноваты перед вами. Нет ли в каждом из нас частички Рожковых-старших, а в наследниках наших — частички Оксаны?

*Витебский район.*

